акручываем месца злучэньня старанна і моцна ліповым лыкам або гэтак званай рафіяй (лыкам з пальмовага дрэва) і дакладна замазываем усе берагі ушчаповай масьцю, каб усярэдзіну не даставалася паветра: гэта памагае хуткаму зрастаньню. Усю працу пры шчапленьні трэба выконываць скора, не марудзячы, каб не высыхалі ні зразы, ні падкладкі. Дзеля гэтага-ж ня можна шчапіць у гарачы сонечны дзень і калі пагода стаіць добрая, дык прышчэпліваць трэба або рана да 9-ай гадзіны, або паабедзе ад гадзіны 4-тай уніз.

2. Найлягчэйшым і таксама вельмі пашыраным спосабам прышчэпліваньня ёсьць гэт. званае **кажухаваньне**. Стасуецца гэты спосаб аднак толькі тады, калі падкладка грубейшая (старэйшая) як прышчэп (зрэз); прышчэпліваць спосабам кажухаваньня можна толькі тады, калі ў дрэве пойдзе сок і кара лёгка адстае ад дрэва (м ц красавік). На рысунку спосаб кажухаваньня паказаны чатырма верхнімі фігурамі з правага боку. Падкладка пры гэтым роўна зразаецца. Адначасна прыгатаўляецца і зрэз седлаватым клінком так, як гэта паказана на рысунку, абапал грубейшага пня. Калі зрэз гатовы, дык, каб ён ня высах, прамываем ў вадзе і бяром у губу, а на падкладцы ад самага верху ўніз больш-менш на адну пядзю разразаем роўна кару, крыху яе адхіляем і шчыльна прыкладаем загадзя прыгатаваны зрэз. Тады адхіленую кару захіляем узноў і прыпіскаючы левай рукой, правай абкручываем так, як гэта паказана на апошняй фігурцы з правага боку. Гэтак асаджаны прышчэп старанна замазываем ушчаповай масьцю і работа скончана.

3. Падобным да кажухаваняня ёсьць яшчэ **прышчэпліваньне на прыстаўку**, а такжа прышчэпліваньне ў **шпару**. Гэтых спосабаў на рысунку няма, але яны у шмат чым падобныя да кажухаваньня. Розьніцца ж такае напрыклад прышчэпліваньне на прыстаўку ад кажухаваньня тым толькі, што на падкладцы ня толькі адлупліваецца кара, але ў ёй (у падкладцы)вырэзваецца з боку равок, у каторы пасьля ўсаджваецца адпаведна абрэзаны зрэз, які пасьля таксама зьвязваецца і абмазваецца ўшчаповай масьцю, як пры кажухаваньні.—Пры прышчэпліваньні ў шпару роўна зрэзаная —як пры кажухаваньні — падстаўка расшчэпліваецца зьверху нажом і ў гэты расшчэп устаўляецца загадзя прыгатаваны зрэз, канец каторага на плоска абструганы з двух бакоў. Месца, дзе зрэз злучаецца з падстаўкай, старанна абмазваецца ўшчаповай масьцю і лёгка абвязваецца.

Кажухаваньне, прышчэпліваньне на прыстаўку і ў шпару можна рабіць толькі ў пару, калі ёсьць у дрэве сок, прычым падстаўка заўсяды мусіць быць грубейшая як зрэз.

Агульная ўрэшце ўвага да разгледжаных вышэй спосабаў прышчэпліваньня—каб ні ў якім выпадку ня прышчэпліваць „прабуджанага“ зрэзу, асабліва ж, калі падкладка йшчэ „сьпіць“ (ня мае соку), бо тады прышчэплены зрэз адразу патрабуе шмат соку, а не знайшоўшы яго — замірае з голаду. Таму зрэзы трэба старанна хаваць ад доступу цяпла.

4. Апошнім ўрэшце спосабам прышчэпліваньня пладовых дрэваў, паказаным на нашым рысунку, ёсьць гэтак званае **вочкаваньне**. Называецца яно так дзеля таго, што на падкладку прышчэпліваецца ня цэлы сучок (зрэз) з некалькімі вочкамі, а толькі адно **вочка**. Гэты спосаб прышчэпліваньня ўжываецца ўлетку, праз увесь месяц жнівень, калі сокі другі раз прыплываюць у дрэва (першы раз прыплывае сок раньняй вясной). Найлепш ужываць гэтага спосабу да пад-

---

niem žyvoj žyvioły, ale jość tak-ža voŭna, jakaja atrymoŭvajecca z stryžeńnia žyvioły zabitaj ci paŭšaj; urešcie jość jašče voŭna hetak zvanaja **harbarskaja**, jakaja atrymoŭvajecca vyčesvańniem zvyčajnych aŭčynak u harbarni pry vyrablańni. Naturalna, što jakaść usiakaj voŭny atrymoŭvanaj z žyvioły ŭžo niažyvoj, jość nižejšaja ad voŭny z žyvioły žyvoj. Stryžeńnie pavinna adbyvacca ŭ pamieškańni, dzie nie padymajecca pył. Astryžanuju voŭnu treba pierad usim ačyścić ad astatkaŭ usiakaj pašy i addzialić ad jaje abnožki (voŭnu z noh i hałavy i naahuł voŭnu mienš vartasnuju). Kali voŭna praznačana na rynak, dyk źvivajecca jana ŭ skrutki (rulony) tak, kab voŭna ad aviečak była asobna, ad jahniat — asobna, ad baranoŭ — asobna i h. d. Nikoli nia možna źviazvać hetkich rulonaŭ za mocna, bo voŭna tady moža źbicca ŭ vojłak. „Kłustuju“ voŭnu aprača taho nia možna naahuł zrazu źviazyvać u skrutki, a treba spačatku jaje pakinuć praz paru dzion prasochnuć u suchim pravieŭnym miescy.

Astryžanuju voŭnu myć chatnim sposabam—nia dobra; lepš heta rabić tady jašče, kali voŭna na aviečcy. Da myćcia pryhodnaja tolki vada miakkaja, a kali jana ćviordaja, dyk treba da jaje dadać sody (poŭkilo sody na 100 litraŭ vady). Kab myćcio było bolš dakładnaje, treba pamytuju aviečku pa 5—6 hadzinach jašče prapałaskać. Dzie možna mieć da myćcia aviečak ciopłuju vadu (16° C), dyk heta vielmi pažadana.

Što datyča času, u jaki maje adbyvacca stryžeńnie, dyk u nas najčaściej heta robicca dvojčy ŭ hod: viasnoj i ŭvosieni. Spatykajucca adnak hałasy, što pry dvurazovym stryžeńni aviečak sama žyvioła lišnie mučycca našeńniem uletku ciopłaha kažucha, a voŭna da taho za hetki doŭhi čas źbivajecca ŭ vojłak. Tamu radziać siahońnia ŭžo stryhčy našyja aŭčynnyja avieški nia dva, a **try razy ŭ hod**: kala 15 krasavika, kala 15 žniŭnia i kala 15 śniežnia. Apošniaja stryžka (15.XII) adnosicca da aviečak praznačanych na plem. **V.Ach—vič.**

кладак маладых з тонкай карой; на падкладцы старэйшай прышчэпліванае вочка прыжывае вельмі цяжка.

Першай справай пры вочкаваньні ёсьць: даведацца, ці ёсьць у дрэве сок. Дзеля гэтага на падкладцы празначанай да прышчэпліваньня вострым нажом разрэзваем накрыж кару аж да жывога дрэва і прабуем, ці гэта кара лёгка адстае; калі так, дык знача сок ёсьць і шчапіць можна: калі-ж кара не адстае і толькі раздзярэцца, дык знача соку няма.



**Прышчэпліваньне дрэваў спосабам вочкаваньня 3—лева: вочка з сярэдзіны і з надворку. Далей у права: нарэзаная кара прад шчапленьнем і апошняе — дрэўца прышчэпленае і абвязанае лыкам.**

Парадак работы пры спосабе вочкаваньня гэткі: запасіцца трэба ў добрае тонкае ліпавае лыка (або рафію) і ў сёлетнія сільныя зрэзы (толькі не „ваўкі!“) з здаровых добрародных дрэваў. Трэба памятаць, што зрэзы ў гэту (летнюю) пару вельмі чуткія на сухасьць, таму за раз трэба зрэзываць іх гэтулькі, колькі за адзін дзень можна выкарыстаць; зразу трэба абарваць з зрэзаў лісты, пакідаючы толькі трончыкі, і ўставіць у збан з вадой, каб ня вянулі. Вочкі на зрэзах выбраных да прышчэпліваньня павінны быць грубыя і набрыняўшыя, а знаходзяцца яны пад неабарванымі трончыкамі лістоў.

Дальшы поступ працы гэтакі: —

Пень прышчэпліванай падстаўкі абціраецца чыстай намочанай у вадзе шматкай. На абцёртай гэтак кары нарэзваецца вострым нажом літара „т“ так, як гэта паказана на рысунку, а сама кара асьцярожна адхінаецца. Тады бярэцца з збана галінка зрэзу і з яе вырэзваецца вочка так, каб пад ім разам з карой было і крыху маладога дрэва (мяздры). Гэтак вырэзанае вочка асьцярожна ўкладаем за адхіленую кару прышчэплiванай падстаўкі так, каб спад яе выглядала навер толькі самае вочка. Лішню кару вырэзаную з вочкам, якая ня месьціцца пад карой падкладкі, абрэзваем, а адхіленую прад тым кару падкладкі нанова закладаем так, як яна была прад нарэзваньнем літары „т,“ прычым само вочка, разам з чаранком (трончыкам) ліста мусіць выставаць наверх. Калі гэта зроблена, тады абвіваем прышчэпленае месца лыкам так. каб вочка мела вольнае месца дзеля росту і замазваем ушчаповай масьцю.

На гэтым работа і кончыцца. Астаецца цяпер толькі дагледзіць, ці прышчэпліваньне прынялося. — Чаранок ліста праз 2-3 тыдні пажаўцее і адпадзе, а і самае лыка ў гэтым часе таксама можна ўжо адвязаць.

Прышчэпліваючы дрэва спосабам вочкаваньня, трэба сьцерагчыся, каб гэта вочка ня вырасла ў галінку да зімы тагосамага йшчэ году. Дзеля гэтага ня можна прышчэпліваць раней месяца жніўня, а і самае прышчэпліваньне трэба рабіць з паўночнага боку дрэўца, куды не даходзіць сонца і не пабуджае вочка да росту.

В. Р.

# 10-ць гадоў Земляробскай Акадэміі ў Датнове (Літва).

Калі літоўскі земляроб не адчуў так востра сучаснага гаспадарчага крызысу, дык заслуга ў гэтым немалая літоўскіх земляробскіх школ, сярод якіх на першым месцы стаіць Акадэмія ў Датнове. У канцы мінулага году літоўскае грамадзянства абходзіла 10 тыя ўгодкі існаваньня гэтай Акадэміі, як школы вышэйшай. Пазнаёмімся з гэтай установай хоць у кароткіх словах.

Сучасная Акадэмія, як школа вышэйшая, паўстала ў 1924 г., з спалучэньня дзьвюх школ: Земляробска Лесавога Аддзелу Унівэрсытэту ў Коўні і Земляробскага Тэхнікума ў Датнове. Сам тэхнікум быў заснаваны ў 1911 г. і прад прыходам немцаў быў эвакуаваны ў Багародск (у Расеі). Увосені 1918 г. літоўскі ўрад ужо адчыніў нанова „Датнаўскую Земляробскую і Лесавую Школу“, якую крыху пазьней перайменаваў на „Земляробскі Тэхнікум“.

Асобна ад тэхнікума, у 1922 г. быў заложаны Земляробска-лесавы Аддзел пры Унівэрсытэце ў Коўні. Хутка аднак паказалася патрэба злучэньня гэтых дзьвюх школ у адну. Сталася гэта ў 1924 годзе, дзесяць гадоў таму назад. Пры гэтым новая школа сталася школай вышэйшага тыпу. У 1927 г. скасаваны быў лесавы Аддзел пры школе, а адначасна была праведзена спэцыялізацыя Аддзелу земляробскага, пры каторым ад 1927 да 1930 г. былі сарганізаваны і ўрухомлены 4 сэкцыі: 1. абрабляньня глебы і расьліннай прадукцыі, 2. жывёлагадоўлі, 3. эканомікі і 4 хатняй гаспадаркі (для дзяўчат).

Арганізацыйнае і навуковае жыцьцё Акадэміі кіруецца статутам, які ў 1928 г. быў зьменены. Паводле новага статуту, рэктара Акадэміі назначае дзяржаўны прэзыдэнт спасярод кандыдатаў прадстаўленых яму міністрам земляробства. У гэтым акадэмічным годзе рэктарам Акадэміі ёсьць праф. Вілкайтіс. Ад 1934 г. у Акадэміі працуюць: 16 прафэсараў і доцэнтаў, 5 этатовых і 9 неэтатовых лектараў і 22 асыстэнты і лябаранты.

## Як рабіць ушчаповую масьць.

Каб прышчэпліванае дрэўца хутка і дакладна зраслося з усаджаным у яго зрэзам, трэба вельмі добра дапасаваць гэты зрэз да падстаўкі і належна іх пасьля зьвязаць. Аднак пры найбольш старанн́ай рабоце ня можна так зладжыць з сабой падкладкі з зрэзам, каб паміж імі не ўваходзіла паветра, а з ім—і розныя дробнатворы — бактэрыі, якія гэткаму зрастаньню могуць перашкаджаць. Вось-жа на тое, каб адгарадзіць усякі доступ паветра ў месца зрастаньня зрэзу з падкладкай, гэта месца трэба дакладна абмазаць **ушчаповай масьцю.** У продажы досыць ёсьць усякай ушчаповай масьці,але раз,што ня ўсюды можна яе знайсьці, а да таго—яна бывае часта нядобрай, сапсутай. Дзеля гэтага пазнаёмімся тут з двума спосабамі прыгатаваньня гэткай масьці дома.

**Спосаб першы:** бярэцца 40 дэка (фунт) белай яловай смалы (жывіцы), 40 дэка растопленага сьвіннога сала і 20 дэка воску. Усё гэта растопліваецца ў гаршку на вольным агню. Пасьля гаршчок ад агню адсуваецца і ў растопленую мешаніну ўліваецца кварта алею і поўкварты тэрпатыны, добра перамешваецца і на 2—3 мінуты ўзноў прысуваецца да агню. Пасьля ўсё гэта выліваецца ў плоскую міску каб адстыла, а адстыўшае перакладаецца ў паперу, у якой гатовая масьць і перахоўваецца ў холадзе.

**Другі спосаб:** бярэцца 40 дэка (фунт) каліфоніі, 20 дэка сасновай смалы і 8 дэка лою. Усё гэта растопліваецца ў бляшанцы на вольным агню, пасьля адстаўляецца. Цяпер стала мяшаючы растопленую мешаніну ўліваем ў яе 20 дэка дэнатураванага сьпірту (сьпірту, што ўжываецца да паленьня) і масьць гатова. Прыгатаваную гэткім (танейшым) спосабам масьць трэба перахоўваць у закаркаванай бутэльцы, бо йнакш хутка вытыхаецца і цьвярдзее. Калі-б і гэтак трыманая масьць сьцьвярдзела, дык да яе трэба нанова дадаць гэтуль і сьпірту, каб разьмякчылася.

**В. Р.**

Мікалай Короленко.

## Шкоднікі нашых садоў і змаганьне з імі.

У нашых садох ёсьць шмат розных шкоднікаў, каторыя вельмі часта робяць шкоды культурам дрэўным, што моцна ўплывае на кішэнь гаспадароў-садоўнікаў. І вось я хачу на гэтым месцы магчыма коротка пазнаёміць нашых садоўнікаў з выглядам найважнейшых, шкадлівых аваднёў (жамяры, палач. Insecta), іхняй біолёгіяй*) і спосабамі змаганьня з імі. Рабіць буду гэта паводле парадку прынятага ў навуковай сыстэматыцы.

### I. Клапы (Hemiptera).

З інтэрэсуючых нас аваднёў належаць тутака перад усім: Мядоўкі (Psyllidae), Мэшкі (Aphididae) і Шчытковыя мэшкі (Coccina).

а) Мядоўкі *(Psyllidae)* — гэта вельмі, дробненькія авадзёнкі,з прыплюшчаным целам каторыя высысаюць пучкі, а пасьля ўлазяць у іх сярэдзіну. У нас выступаюць два гатункі:

Ігрушная мядоўка (*Psylla pyricola*—Först) — належыць да вельмі шкодных для ігруш. Колер: лярваў**) — жоўты, німф — зялёны з

*) Біолёгія — навука аб жыцьці.

**) Усе авадні, у тым ліку і мядоўкі, праходзяць нармальна чатыры разваёвыя ступені: 1. яечка, 2. лярва (вусеніца), 3. пачварка (каўшак або люлечка) і 4. сьпелая форма.

---

Акадэмія сёлета мае наступныя катэдры: 1. хэміі (з кабінэтам фізыкі), 2. агрохэміі і глебазнаўства, 3. ботанікі спэцыяльнай, 4. агульнага абрабляньня глебы і гадоўлі расьлін, 5. спэцыяльнай гадоўлі расьлін, 6-7 агульнай і спэцыяльнай жывёлагадоўлі, 8. зоогыгіены і вэтэрынарыі, 9-11. агульнай, земляробскай і спэцыяльна-земляробскай эканоміі, 12. земляробскай інжынерыі і 13. пэдагогікі.

Курс навукі ў Акадэміі праходзіцца ў 7 сэмэстраў, з выняткам сэкцыі хатняй гаспадаркі, дзе навука трывае 6 сэмэстраў (3 гады). Да гэтага часу Акадэмію скончыла (абсольвавала) 232 асобы, спасярод якіх было 52 жанкі, што скончылі аддзел (сэкцыю) хатняй гаспадаркі.

У гэту пару Акадэмія мае 223 студэнтаў (134 мужч і 86 жанок) і 3 вольных слухачоў; 84 прац. студэнтаў паходзіць з вёскі. Па нацыянальнасьці — 96 прац. літоўцы.

Аплата за навуку ў сэмэстр выносіць 75 літаў, кватэра і харчы ў месяц—каля 60 літаў.

Характэрна для сужывецтва студэнтаў Акадэміі тое, што Акадэміцкі Суд дагэтуль ня меў ніводнай справы.

Абсольвэнты Акадэміі працуюць у розных галінах жыцьця: як земляробскія школы, фаховыя арганізацыі, коопэрацыя і г. д.

Гэта ў кароткіх словах гісторыя і рэзультаты працы галоўнай літоўскай земляробскай школы.

Для нас беларусаў гэта ясны прыклад, як можа разьвівацца культура і дабрабыт народу ў сваей собскай дзяржаве. Бо-ж трэба ведаць, што на залажэньне гэтай самай Дотнаўскай Школы грамадзянства дарма чакала дазволу ад расейскіх уладаў аж цэлых 12 год: ад 1899 г.,калі была паслана цару просьба, — да 1911 г. А як настаў літоўскі ўрад, дык школа была ўрухомлена ў працягу некалькіх месяцаў. Не для самай, знача, толькі палітыкі патрэбна народу свая палітычная незалежнасьць: патрэбна гэта незалежнасьць для самага жыцьця, для існаваньня народу.

**А. К.**

бранзовым рысункам, дарослых (imago) — жоўты або чырвона-бранзовы ў чорныя паскі. Зімуюць у форме дарослай у шчэлінах кары, а вясной саміцы складаюць яечкі. Шкоднік гэты расьце вельмі хутка, так, што ў працягу 4-х тыдняў даходзіць ужо да формы дарослай, дзеля чаго за адно лета выступае 4, а навет і 5 пакаленьняў. Пад уплывам іх ссаньня лісты і плады перад часам ападаюць і дрэвы затрымліваюцца ў разьвіцьці.

Другі гатунак мядоўкі, Яблынная мядоўка (*Psylla mali*—Först) выступае на яблынях, але ў нас вялікіх шкод ня робіць.

Спосабы змаганьня з мядоўкамі галоўным чынам палягаюць на абпырсківаньні зімой дрэў садоўніцкім **karbolineum'am**. Калі гэтага ня зробіцца, то тады трэба вясной нападзеныя дрэвы абпырсківаць іншымі сродкамі, ужыванымі проціў мэшак (глядзі ніжэй).

Мэшкі (*Aphididae*)—гэта невялікія авадзёнкі, ад 2 да 4 мм. даўжыні, з вельмі кволым целам. Выступаюць яны як формы крылатыя (з чатырма скуркавымі крылкамі) або зусім бяскрылыя. Размнажаньне іх можа адбывацца ня толькі пры помачы самцоў, каторыя найчасьцей зьяўляюцца ўвосені, але і так званым спосабам партэногенэтычным (parthenogenesis), гэта знача без апладненьня. Залежна ад гэтага саміцы складаюць яечкі, або выдаюць жывароднае патомства. Разьвіваюцца вельмі скора, так, што ў працягу аднаго лета выступае некалькі пакаленьняў. Мэшкі, жывучы на розных расьлінах, высысаюць з іх сокі, што пры масавых паявах робіць вялікія зьнішчэньні сярод расьлін упраўных і дзеля таго належаць яны да найпаважнейшых аваднёў-шкоднікаў. З мэшак падаю такія гатункі:

Яблынная мэшка (*Aphis pomi*—De Geer)—гэты дробненькі, ясна — зялёны авадзёнак; высысае пучкі і маладыя лісточкі, каторыя пад уплывам таго ссаньня пачынаюць моршчыцца і скрочывацца, гэтым самым хаваючы цэлыя калёніі мэшак ад ворагаў, вялікай сьпекі і т. п. Мэшка гэтая ёсьць вельмі паважным шкоднікам, перад усім грозны ў школках маладых дрэвак яблыняў. Яечкі мэшкі зімуюць на кончыках галінак.

Агрэставая мэшка (*Aphis grossulariae*—Kalt) — зялёнага колеру, з ясна-жоўтымі вусікамі і трубачкамі; у крылатых формаў грудзі чорныя, а брушка зялёнае. Выступае на кончыках галінак агрэсту і парэчак у V і VI.*) Пад уплывам іх жыраваньня тронцыкі лістоў скручываюцца, а лісты прыцікаюцца да галінак.

Сьліўная мэшка (*Hyalopterus pruni*—F.)—гэта вельмі паважны шкоднік сьлівак. Ёсьць ён бруднага жоўта-зялёнага колеру, з цёмнай галоўкай; бывае прычынай скручываньня лістоў.

Вішнёвая мэшка (*Myzus cerasi*—F.)—мэшка гэтая выступае на маладых сьцяблох і лістох вішняў і чарэшняў. Колеру яна чорна-блішчучага, хоць летам некаторыя пакаленьні ня маюць свайго нармальнага колеру і тады астаюцца чорна-зялёнымі або чорна-бурымі. Вельмі грозны ў школках маладых дрэвак; лістоў ня скручывае.

Апрача пададзеных тутака гатункаў мэшак, выступае ў нас яшчэ шмат іншых гатункаў спатыканых радзей.

*Способы змаганьня з мэшкамі.*

1) Калі ўжо ўбачым, што лісты скручываюцца, ці заўважым якія іншыя прыметы бытнасьці мэшак, або найлепш яшчэ перад гэтым, трэба абпырсківаць дрэва **табачным прэпаратам**, каторы прыгатаўляюць такім спосабам: 400 грам. найгоршай табакі (тытуну), як напрыклад махоркі, на 12 літраў вады, гатаваць праз 6—8 гадзін, пасьля перацадзіць і дадаць 24 літры вады і 125 грам. шэрага мыла распушчанага ў гарачай вадзе. Гэтым адварам пры помачы абпырсківача трэба распыляць гэтую плыўкасьць на дрэва 3—4 разы, у перарывах па 7—10 дзён, зьвяртаючы галоўную ўвагу, каб добра абпырскаць споднія часьці лістоў і маладыя галінкі, дзе найбольш сядзяць мэшкі.

2) Вясною шмараваць пні дрэў, а галіны абпырсківаць **вапенным малаком**, якое прыгатаўляюць такім спосабам: каб атрымаць 100 літраў гэтай плыўкасьці, трэба ўзяць каля 6 кілё чыстай добрай выпаленай вапны, усыпаць у які-небудзь кошык і ўсадзіць на момант ў ваду. Пасьля выбраны з вады кошык трэба накрыць мяшком, а калі ўжо вапна рассыпіцца на дробненькі парашок, у той-жа час дадаць да яго вады, разьмяшаць добра, перацадзіць; атрыманая жыжка—гатовая да ўжываньня.

3) Каб перашкодзіць паяўленьню шкоднікаў, ужываецца зімой або ў пачатку вясны, калі яшчэ пучкі не набрыняюць, так званая **карбольная мешаніна**, іначай — садоўніцкі карболінэум. Спосаб прыгатаваньня: распусьціць ў гарачай вадзе 200 грам. шэрага мыла і дадаўшы (паступова) 100 грам. неачышчанай карбольнай кісьлі, добра вымешаць і даліць да таго яшчэ 12 літраў вады. Ужываць у дзень пагодны, даволі цёплы і калі няма яшчэ на дрэве лістоў.

4) Летам, каб зьнішчыць мэшкі ці іншыя авадні, трэба абкурыць сад **табачным дымам**. Раніцай або ўвечары, калі пагода ціхая, найлепш пасьля дожджу, трэба парaскладаць кучкі саломы, каля 40 на $^1/_8$ га саду, а на іх —тытуну (адпадкаў), на кожную кучку па 2 кілё, мяркуючы так, каб па падпаленьню гэтых кучак, выходзячы дым абняў цэлы сад і трымаўся там праз якія 2 гадзіны.

5) Увосені, калі ўжо лісты апалі, у цёплы і ясны дзень, або вясною, калі яшчэ няма набрыняўшых пучкоў — вельмі добра абпырскаць дрэва якіх 2—3 разы разчынай **сярчану жалеза**. Склад: на 12 літраў вады 1 кілё сярчану жалеза і 1 кілё вапны. Увага:

---

*) Рымскія цыфры зaўсёды азначаюць месяцы.

калі ўжо пачынаюць распушчацца пучкі, то гэтай плыўкасьці ня можна ўжываць, бо можа пашкодзіць кволым часьцям расьлін.

6) Таксама добра нішчыць мэшкі **мыльна-нафтовая мешаніна**, якую трэба гэтак прыгатаўляць: у 3 літрах гарачай вады распусьціць 100 грам. шэраша мыла, пасьля безперарыву мяшаючы ўліваць паступова 600 грам. нафты, мяшаць найменш 15 мінут, ізноў уліць 3 літры гарачай вады і яшчэ 12 літраў сьцюдзёнай вады. Атрыманую гэткім спосабам мешаніна распырсківаць можна толькі тады, калі яна ёсьць вымешаная і толькі да 6 гадзін па зрабленьню. Дзень выбіраць ня вельмі цёплы.

б) Шчытковыя мэшкі (*Coccina*)— жывуць найчасьцей на кары дрэў, пад абаронай шчыткоў. Лярвы іх, якія бываюць схаваныя пад шчыткамі няжывых саміцаў-матак, разлазяцца па цэлай расьліне, шукаючы добрага месца жыраваньня. У гэным часе яны безбаронныя, бо яшчэ не пакрытыя шчыткамі і таму тады найлепш іх нішчыць. Пасьля яны некалькі разоў ськідаюць скуркі, а саміцы губяць ножкі і робяцца нярухомымі, акрываюцца шчыткамі і па апладненьню самцамі кідаюць пад сябе яечкі і гінуць. Але самцы заўсёды рухавыя, а маючы да гэтага крылкі, могуць лёгка вышуківаць саміцаў.—Шчытковыя мэшкі наколываюць кару і высысаюць з расьлін шмат сокаў, дзеля чаго дрэвы слабеюць і менш даюць пладоў, а асобныя галінкі ці навет дрэўкі вельмі часта гінуць. Варта зазначыць два гатункі шчытковых мэшак:

Яблынны чарвец (*Lepidoraphes ulmi*—L.) на яблынях, менш на іншых дрэвах распаўсюджаны. Шчыток саміц даходзіць да 3-х мм. даўжыні і мае форму пукатай коскі, найчасьцей бранзовага ці шэра-бранзовага колеру. Сам авадзень белаваты або жоўты, даўжыні 1 мм.

Агрэставы чарвец (*Lecanium corni*—Bouche) мае шчыток паўкруглы. Паяўляецца на пладовых дрэвах, а так-жа на агрэстах, парэчках і малінах. Вельмі шкодны.—Спосабы змаганьня: падчас зімовага сну дрэў, падаслаўшы на зямлю мяшкі або посьцелкі, аскрабаць кару і абпырскаць дрэва садоўніцкім карболінэўмам.

(д. б.).

*Яшчэ сягоньня загляньце ў свой сад і абчысьціце яго, бо заўтра, калі аджыўшыя рабакі распаўзуцца па ўсім дрэве, ратунак будзе ўжо спозьнены.*

## Яшчэ аб палёгках у сплачываньні земляробскіх даўгоў.

У адным з леташніх нумароў „Самапомачы" (11) былі апісаны найгалаўнейшыя пастановы закону з 24.X.34 г. аб „аддаўжэньні" земляробскіх гаспадарак. Ад таго часу шмат адплыло вады і не адзін з тых, што цешыўся новым законам, у канцы перакнаўся, што карыстаць з яго ня так ужо проста і лёгка.—Тут мы пазнаёмімся з зьместам міністэрскага распараджэньня з дня 11.XII.34г., якое выясьніць мае, як названым законам карыстацца.

Вось-жа паводле гэтага распараджэньня сплата даўгоў у коопэратыўных банках (касах Стэфчыка), ашчаднасьцёвых і камунальных касах раскладаецца: для гаспадароў групы „А" (тыя што маюць ня больш 75 га зямлі) на 14 гадоў, а для гаспадароў групы „В" (ад 75 да 750 га)—на 10 гадоў, для арэндатараў—на 5—10 гадоў пры 4,5 проц. гадавых (дагэтуль было на 7 гадоў пры 6,5 проц.). Сплата даўгоў раскладаецца на часьці (на раты) так высокія, каб раўняліся ад 2 да 10 проц. для групы „А" і ад 2 да 20 проц. для групы „В" самага капіталу доўгу. Гэткую раскладку доўгу на часьці (конвэрсію) трэба падпісаць з банкам найпазьней да дня 31 сьнежня 1935 г. Ня можна конвэртаваць (расладаць на часьці) доўгу, калі ён зроблены пасьля 1 ліпня 1 ліпня 1932 г.; з тых-жа даўгоў, што зроблены прад 1 ліпнем 1932 г. ня можна конвэртаваць такіх, каторыя ў аднэй касе не перавышаюць 100 зл. для гаспадароў групы „А" або 1000 зл. — для гаспадароў групы „В."

Справу сплаты даўгоў прыватных вырашае распараджэньне Міністраў Земляробства і Справядлівасьці з дня 10.I.1935 г. Паводле гэтага распараджэньня ўстанаўленьне сплаты вышменаваных даўгоў належа да гэтак званых Перамірных Урадаў (Urzędy Rozjemcze). Каб завесьці справу ў Перамірным Урадзе, трэба аплаціць: упісныя ў вышыні ½ проц. доўгу, найменш аднак 2 зл. Калі Перамірны Урад зацьвердзіць пададзеную угоду, дык упісная аплата выносіць толькі адну пятую часьць вышэйпаказанага упіснога. Апрача гэтага упіснога, ёсьць яшчэ з. гв. ўпісное сталае, залежнае ад вышыні доўгу, 5—15 зл. Канцэлярыйныя аплаты за дакумэнты выносяць 50 грашоў за бачыну (старонку).—Дальшым выдаткам ёсьць кошт паступаньня (сьведкі, сьледзтва і г. д.); вышыню гэткага выдатку ўстанаўляе сам Перамірны Урад у кожным выпадку асобна.

Б. К.

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.
Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

# ГАСПАДАРЧАЯ ХРОНІКА.

Ад выдавецтва „САМАПОМАЧЫ." Гэты падвойны 2—3 нумар „Самапомачы" за м-цы люты і сакавік выходзіць з малым спазьненьнем. Наступныя нумары будуць выходзіць у рэгулярных (месячных) одступах часу. — Адначасна просім і папераджаем нашых паважаных чытачоў аплаціць падпіску. Хто гэтага ня зробіць, той наступнага ўжо нумару „Самапомачы не дачакаецца. Кожны ў уласным інтарэсе, каб ня было затрымкі ў высылцы часапісу, павінен зараз-жа аплаціць належную падпіску. Спосаб перасылкі грошаў пададзены на бачыне 10-ай.

Як працуе спажывецкая коопэратыва „Самапомач" у Вял. Ліпе? Ніжэй друкуем выпіску з гадавога білянсу коопэратывы „Самапомач" у Вял. Ліпе, Нясьвіскага пав. Да пададзеных у выпісцы лічбаў варта дадаць наступныя паясьненьні.

Коопэр. „Самапомач" у Вялікай Ліпе зарганізавана была ў 1933 г. і абслугоўвае вёскі Вялікую Ліпу, Баяры, часткова Высокую Ліпу, двор Ліпу і бліжэйшыя хутары. Сьвядамасьць коопэратыўная і грамадзкая сярод сяброў коопэратывы досыць высокая. Ідзе сюды тры дзесяткі „Самапомачы". Ад 1929 г. існуе ў Вял. Ліпе кооп. малачарня. Абедзьве коопэратывы цесна супрацоўнічаюць.

На 31 сьнежня 34 г. Коопэр. „Самапомач" лічыць 85 сяброў. Урад коопэратывы кіруецца к таму, каб чужыя капіталы зусім выціснуць з коопэратывы і ў 1935 годзе зусім імі не карыстацца.

Чыстае надвыжкі за 1934 г. коопэратыва мае 455 зл. 20 гр.

Агулам абароту за 1934 г. „Самапомач" зрабіла 21.101 зл. 33 гр.

„Самапомач" у 1935 г. і наступных гадох будзе кіравацца к таму, каб коопэратыўным парадкам г. зн. бяз помачы прыватнікаў сарганізаваць даставу ўсяго, што патрэбна на вёсцы, а так-жа зарганізаваць збыт усякіх тавараў гаспадарскіх.

Ацэнка сыроў у Баранавічах у канцы 1934 г. У ацэнцы прымалі ўдзел каля 20 самастойных вытворцаў Найлепшыя сыры аказаліся з коопэратыўнае малачарні ў Флёрыянове, а рэшта сыроў каля 80 процэнтаў аказаліся або трэці гатунак, каторыя могуць быць дапушчанымі да продажы і консумцыі з пэўнымі засьцярогамі, або зусім нікуды нягодныя, так званыя сыры да пераробкі. Найгоршыя— сыры баранавіцкіх гуртаўнікоў і складніцы „Споламу".

Пасьля ацэны адбылося паседжаньне саюзу продуцэнтаў сыра. Выясьнілася пры гэтым, што дробныя дастаўцы — сяляне ў коопэратыўных малачарнях дастаўляюць лепшае малако як двары.

На гэтым-жа зьезьдзе з урадавага боку была прапанова дамагаецца ад Цэнтралі Малачарскага Саюзу ў Варшаве, адчыненьня аддзелу ў Баранавічах. Ніхто аднак гэтым не захапіўся, а надварот—пасыпаліся нараканьні на гаспадарку гэнага Саюзу і прадстаўнікі Саюзу паехалі ў Варшаву з нічым.

# Наша пошта.

Гурток Б. І. Г. і К. у Б—ве: Разам з папярэднімі маем цяпер ад Вас падпіскі 6 зл. Пастарайцеся канешна дапоўніць дзесятку.

К-ва „Самапомач" у В. Л. Выпіску з білянсу зьмяшчаем. Справаздача аб сходзе бадай што спозьнена. — Праўную нараду адсылаем асобным пісьмом.

М. С—ка у В. Л. і Я. Яр.—віч у Ю—кох: праўныя парады Вам высланы асобнымі пісьмамі.

Я. Пет—ко ў А—ве: атрымалі, дзякуем, застасуем ад наступнага нумару. Пастарайцеся сабраць „дзесятку."

А. Ул. С—кі ў А—нах усё прошанае Вамі— выслана. Ці атрымалі? А як там справа, [аб каторую мы Вас прасілі?

А. Фр. Ч—скі у М—ны (Францыя): атрымалі, дзякуем, будзем высылаць.

Ул. Чачык, М. Місюкевіч, А. Давідовіч, А. Чэбатарэвіч, М. Бандарчук — пробныя нумары высылаем. Дальшыя вышлем толькі па атрыманьні ад Вас падпіснай платы.

Ані—к В.: патрэбныя Вам друкі высланы другі ўжо раз: ці атрымалі Вы іх?

Я. Ге—ш: Усе прошаныя кнігі і часапісы высланы. „Самапомач" будзем акуратна высылаць на паказаны адрэс у З. Тое самае і з „Б. Кр.". Напішэце нам пра сваё жыцьцё.

Д. Ул—нік у Б—х: часапіс, аб каторым пішаце, выдаюць не земляробы, а фабрыка штучных гнаёў. Дык ня дзівуйцеся, што там Вам будуць радзіць „як найбольш гнаіць" — гэта-ж зразумела.

Б. М—віч у К—х: такой пароды бульбы мы ня чулі. Адно з двух: або гэты назоў перакруцілі Вы, або яго перакруцілі прадаўцы каб лягчэй атуманіць галаву нясьведамым людзям.

# Выпіска з білянсу

**Коопэратывы „САМАПОМАЧ", коопэратыва з адказнасьцю паямі ў в. Вялікая Ліпа, Нясьвіскага павету, за 1934 год.**

*Чынны стан:*

| | | |
|---|---|---|
| Каса . . . . . . . . | Зл. | 71.28 |
| Тавары ў краме й магазыне | „ | 994.23 |
| Даужнікі за тавар . . . | „ | 106.47 |
| Рухомасьці . . . . . | „ | 314.32 |
| Пай у Саюзе Спаж. Кооп. | „ | 94.— |
| Іншыя належнасьці . . . | „ | 334.98 |
| Пераходныя сумы . . . | „ | 45.— |
| Залог (каўцыя) . . . . | „ | 3.90 |
| **Разам Зл** | | **1964.18** |

*Доўжны стан:*

| | | |
|---|---|---|
| Паявы капітал . . . . . | Зл. | 648.36 |
| Запасны фонд . . . . . | „ | 258.01 |
| Вэксалі — акцэпты Саюзу. | „ | 300.— |
| Рахунак адчынены ў Саюзе Спажывец. Коопэратыў | „ | 1.93 |
| Рэзэрва на падаткі . . . | „ | 250.— |
| Пераходныя сумы . . . . | „ | 50.68 |
| Чыстая надвышка . . . . | „ | 455.20 |
| **Разам Зл.** | | **1964.18** |

*Управа Коопэратывы.*

*БЕЛАРУСКІЯ КООПЭРАТЫВЫ! Прысылайце ў „Самапомач" выпіскі з Вашых гадавых білянсаў! „Самапомач" абвесьціць іх Вам БЯСПЛАТНА.*

